Год V. Ліпень-Жнівень № 7-8 (54-55).

# Шлях Моладзі

...„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1933 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 7-8:



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю | S, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | У, у — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1 — 3

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год V. | Вільня, Ліпень-Жнівень 1933 г. | № 7-8(55). |
|---|---|---|


## Роля ахвярнасьці у адраджэнскім руху.

Ахвярнасьць, ідэйнасьць, пасьвячэньне для справы грамадзка-народнай ня мае граніц і таму роля ахвярнасьці ёсьць тым чыньнікам, ад каторага залежаць дасягненьні народу. Ахвярнасьць стварае герояў, а народ без герояў ёсьць мёртвым, бо ня мае тых промэтэяў-прарокаў, якія распальваюць агонь любові да бацькаўшчыны.

Ахвярнасьць і пасьвячэньне справам народным, або злажэньне свайго жыцьця, сваіх сіл у ахвяры для бацькаўшчыны, палюдзку брана, ёсьць самым высокім чынам чалавека. Старадаўныя народы: Рымляне, Грэкі і інш. ахвярнасьць, безінтэрэсоўнасьць і пасьвячэньне для дабра бацькаўшчыны лічылі найвялікшай цнотай чалавека. Пагляд на ахвярнасьць і сяньня не зьмяніўся; кожны народ шануе, цэніць заслужаныя адзінкі. Кожны народны герой быў усёцэла аддадзены справам народным і таму ён стаўся героям, бо зрабіў найбольш таго, што мог зрабіць чалавек. У гісторыі людзкасьці бачым такіх адзінак, якія за інтарэсы свайго народу цярпелі і за гэну ідэю сканалі з усьмешкай на вуснах, споўніўшы сваё вялікае пасланьніцтва. А старадаўныя рымскія героі канаючы перадчасна казалі: „Як прыемна і соладка ўміраць за бацькаўшчыну“.

Ня думаймо, што мы ня мелі сваіх герояў, якія дaканаўшы вялікіх чынаў канали з усьмешкай. Мелі мы іх у мінуўшчыне. Мінулае стагодзьдзе дало слаўнага героя Кастуся Каліноўскага, які сваё маладое жыцьцё палажыў на аўтар „Пагоні“. Завіс ён на маскоўска царскай шыбеніцы, як волат духа, сілы і волі, завіс, як адзін з тых, які хапіў за зброю, каб выгнаць чужынца-паняверцу правоў нашага народу. Ён ішоў на шыбеніцу як чалавек, які сумленна выканаў сваё заданьне перад бацькаўшчынай. І ў апошнюю хвіліну свайго жыцьця не забывае ён аб народзе, „з-пад шыбеніцы“ шле „дарагім мужыком паклон“, абадраючы іх духова, заахвочваючы да далейшай барацьбы з чужынцамі. Ён верыць, што недаконченую ягоную работу дакончыць

народ, — новае пакаленьне. А ягоны дух, яго ідэя ніколі ня згіне, аж покуль не асягне мэту; ён з засьвету будзе глядзець арліным зорам на распачатыя вялікія чыны і будзе падкрапляць мужыкоў сваім духам, сваей ідэяй.

Як бачым з вынікаў сяньняшніх дзён, дух Кастуся Каліноўскага валадае нашым народам; ідэя вызваленьня бацькаўшчыны штораз больш і шырэй яго ахоплівае. Па ўсей Беларусі сяньня ня мала спаткаем ахвярных адзінак, якія цалком пасьвяціліся справе народнай беларускай, якія церпяць за сьвятыя народныя ідэалы па чужых турмах і ссылках. А колькі такіх арлоў народных спачывае пад сырым дзярном, якія сканалі за Беларусь!

Кіньма цяпер вокам на тыя малыя народы, якія дзякуючы сыстэматычнай і інтэнсыўна ахвярнай працы змаглі прыгатаваць свае несьвядомыя масы і ўмела выкарысталі мамэнт сусьветнай завярухі для мэтаў незалежніцкіх, для ўтварэньня самастойных дзяржаў.

Гэтымі народамі зьяўляюцца: Літоўцы, Латышы, Эстонцы. Яны апынуўшыся пад няволяй чужынца, былі зусім пазбаўлены ўсялякіх правоў на праяўленьне свайго народнага аблічча, народнага характару. Сьведамай інтэлігенцыі таксама ня было шмат. Жыцьцё палітычнае, культурна-прасьветнае, эканамічнае і самаўрадавае, а нават царкоўна-касьцельнае знаходзілася ў руках чужынца або асымілёванай барона шляхоцкай касты, карацей кажучы — у руках пераважна моральна гнілой буржуазіі.

Палажэньне гэтых народаў было, здавалася-б, безнадзейнае, ніякіх праблыскаў да жыцьця самастойнага ня было відаць. Але сяньня бачым гэтыя народы незалежнымі. Ці гэта сталася цудам? Не! Лепшыя сыны народу, міма немагчымых варункаў, у якіх знаходзіліся, бралі ў рукі нацыянальны сьветач і з глыбокай верай і пасьвячэньнем ішлі ў цёмныя і загнаныя гушчы народу, будзячы яго да адраджэньня, да ўсьведамленьня, да барацьбы за лепшае заўтра.

І гэтая самастойнасьць здабыта, здабыта ўласным высілкам, ахвярнасьцяй.

З уласнай жыцьцёвай практыкі ведаем добра, што нічога само ня робіцца і ніхто нікому нічога дарма не дае; усё, што сапраўды добрага чалавек як адзінка, як сям'я, як народ мае, здабывае ўласным мазалём, уласным высілкам, вялікай ахвярнасьцяй, пасьвячэньнем і сыстэматычнасьцю.

Чым большае будзе грамадзкая, народная ахвярнасьць у дасяганьні сваіх сьвятых ідэалаў, тым бліжэй становіцца той народ да мэты. Чым большы высілак адзінак і народу як цэласьці, тым бліжэйшае зьдзейсьненьне ідэалаў.

Да зьдзейсьненьня нашых народных ідэалаў, г. зн. да стварэньня самастойнай і незалежнай Беларусі яшчэ шмат

трэба вытужыць народных сіл: трэба шмат інтэнсыўна і ахвярна працаваць. Гэты сьвяты і неабходны абавязак ускладаецца на нас — моладзь і мы павінны яго ахвоча выконваць.

**М. Сакол.**

---

# Што чуваць на вёсцы?

У канцы чэрвеня і на пачатку ліпня с. г. прышлося мне быць на вёсцы ў Горадзенскім і Ваўкавыскім паветах. Стараўся я там пачуць голас народу аб сучасным палажэньні агулам і аб беларускім адраджэнскім руху перадусім, дзеля таго, каб пасьля падаць яго да агульнага ведама за пасярэдніцтвам „Шляху Моладзі“, — каб беларусы з іншых куткоў даведаліся, што гавораць, робяць і што думаюць іхнія браты з Горадзеншчыны і Ваўкавышчыны, — таго кутка, які ў сучасны мамэнт ня мае бадай ніякай лучнасьці з беларускім цэнтрам і дзе, можа, пануюць найгоршыя варункі, для якой-колечы арганізованае беларускае адраджэнскае працы. Справа аднак пераданьня і апісаньня поўнасьцю ўсіх спасьцярогаў і падзеяў аказалася ў практыцы ня так лёгкай, бо справаздача такая можа не пабачыць сьвету, а небагатае выдавецтва „Шляху Моладзі“ можа мець вялікія з гэтага страты. З гэтай прычыны змушаны я да пэўнай меры агранічвацца. Пачну-ж апісаньне ад першага майго спатканьня з сялянамі.

Была раніца. Сонца яшчэ ўзышло нявысока, але ужо яркімі праменьнямі асьвячала вузенькую дарожку, на абмежку якой малады хлапец пасьвіў карову, старэйшы селянін —каня, а недалёка іх другі селянін пачынаў баразьніць (аборываць) бульбу. Зблізіўшыся да іх пачаў я гутарку на тэму, як жывецца, што чуваць і г. д. —Мы былі не знаёмыя і дзеля гэтага спачатку чулася нейкае ўпярэджаньне, недавер. Але мала— памалу языкі разьвязваліся. Я сказаў скуль я і хто такі, выняў часопісі і кніжкі і тады ўжо пашло зусім іначай, а адзін з іх так да мяне прагаварыў:

— Але-ж ты брат і папаў, дык папаў: як раз на тых, каторыя любяць сваіх, а газэтка дык якраз тая, каторая найбольш нам падабаецца, каторую мы ўмеем і любім чытаць.

Пасьля гэтага пачаў я пытацца ці чытаюць яны кніжкі беларускія.

— Та мы, браце — адказаў зноў той самы селянін — рады былі-б іх чытаць і купляць, але трудна цяпер, палажэньне страшна цяжкае, падаткі вялікія, ды хлеба і бульбы

няма, дык дзе-ж там кніжкі дакупіцца. Хоць пападаюцца такія, што чытаюць. Нядаўна вось мой прысутны тут малады сусед чытаў бадай усей вёсцы „Дудку Беларускую“ і „Смык Беларускі“, добрыя кніжкі, падабаліся нам, рады былі-б, каб больш дзе падобных дастаць.

Тут я пачаў радзіць, каб залажылі яны якісь гурток легальнае, апалітычнае арганізаці беларускае і пры ём, супольнымі сіламі, адчынілі беларускую бібліятэку.

На гэта мне ўсе трох разам хорам пачалі адказваць.

— Мы ўсе, — цэлая ваколіца — рады былі-б гэта зрабіць, бо добра ведаем патрэбу свае беларускае арганізацыі. Але ў нас такое цяпер палажэньне, што трудна нават аб гэтым і думаць. Цяпер па вёсках, як настане дзень, праходзіць многа розных людзей: адны добра адзеты, другія кепска, а нават часта ўдаючыя жабракоў, якія ня толькі стараюцца даведацца, што дзе хто робіць, але нават што думае. І каб тут, хто ды што-нёбудзь задумаў рабіць, то хутка можа мець насьледкі невясёлыя. Праўда, мы ўжо дасканальна арыентуемся і пазнаём каму чаго трэба, так што ня лёгкую справу яны маюць з намі. Народ у нашай старонцы, няма-ючы магчымасьці мець свае арганізацыі, стараецца, каб ня было і чужых. У нас напр. вучыцель хацеў залажыць „Strzelca“— вось-жа мы сказалі, што ён нам непатрэбны і яго няма.

Далей была гутарка аб народнай сьведамасьці і незалежнасьці, з якой выявілася, што ўсе праваслаўныя лічаць сябе беларусамі. Горш трохі з каталікамі, якія больш паддаюцца полёнізацыі, але таксама пачынаюць ужо справу разумець. Вызваленьня, незалежнасьці чакаюць і ў гэтым кірунку рады заўсёды працаваць. „Сучасны цяжар“ людзей застрашае, але разам і гартуе — ўважаюць яго за „канчальную хвалю“, за якой мусіць быць нейкая зьмена на лепшае і справядлівейшае. Рэалізацыю незалежнасьці прадстаўляюць таксама ясна і проста, цікавяцца пры тым вельмі праектам утварэньня Літоўска-Беларуска-Украінскай фэдэратыўнай дзяржавы.

З такімі менш-больш паглядамі прышлося спаткацца і ў іншых мясцох.

У пачатку чэрвеня, будучы яшчэ ў Вільні, чуў я, што ў Горадзеншчыне праводзіцца змаганьне з гарэлкай і тытуном (табакай) сыстэмай байкоту: людзі дабравольна сказалі сабе, што перастануць піць і курыць. Вестку гэту праўджаў я ў некалькіх мясцох. Аказалася яна праўдзівай. Апроч таго даведаўся я, што на гэтым грунце даходзіць нават да зусім сэр'ёзных сутычак. У аднэй вёсцы падчас вясельля была гарэлка. Калі даведалася аб гэтым моладзь, дык у знак пратэсту хацела тую хату, ў якой адбывалася вясельле, разабраць. Прычын проціўалькаголёва-тытунёвае акцыі многа. Найважнейшае хіба тое, што ўжываньне алькаголю і ты-

туну прыносіць вялікія шкоды для здароўя і вялікія страты для кішэні, а заработак і бяз гэтага багатаму манаполю...

У галіне асьветы прышлося вынесьці вельмі цяжкае ўражаньне. У некаторых мясцох школаў зусім няма, а дзе ёсьць, дык узноў польскія, якія вельмі мала прыносяць карысьці. Прыходзілася досыць часта спатыкаць маладых, здаровых хлапцоў па гадоў 16—17, якія ня толькі ня ўмеюць пісаць, але і чытаць, — фармальных анальфабэтаў. Аднак і тут былі пацяшаючыя аб'явы, бо прыходзілася чуць з вуснаў 7-мі гадовых дзяўчынак прыгожую дэклямацыю беларускіх вершаў Купалы, Коласа і інш. Навучылі гэтага іх добрыя бацькі. Дзяўчаткі гэтыя, сапраўды зьяўляюпца як бы добравешчыя сьветлыя зоркі сярод цёмных хмараў. — Каб-жа гэтых зорак ды падобных бацькоў было як найбольш.

Гэткія ўражаньні вынес я з прабываньня пераважна сярод праваслаўных.

Сярод каталікоў сьведамасьць беларуская таксама ўжо ёсьць, толькі ня можна тут спаткаць адналітага фронту, ёсьць аднак дужа стойкія адзінкі. Там, дзе калісь усё было так «з'эндэчана», што аб беларускасьці цяжка было гаварыць, цяпер дзеецца зусім што іншае. Гэтыя-ж людзі самі ўжо цікавяцца беларускай справай, чытаюць беларускія газэты, кніжкі, выробляючы ясны і праўдзівы пагляд на беларускае адраджэньне, ня ідуць так-жа „лёгка“ на розныя чужыя прызывы.

Вось пару прыкладаў.

У аднэй чыста каталіцкай беларускай вёсцы ксёндз і вучыцялі хацелі залажыць, якую-небудзь польскую арганізацыю. І вось, паміма таго што ў гэтым кірунку ўлажылі яны многа энэргіі, выпаўніць свайго пляну ім не ўдалося. Пытаўся я, чаму іменна сяляне не хацелі належаць да гэтых арганізацыяў. — Адказ быў такі: Арганізацыі гэтыя перадусім чужыя для нас і карысьці ніякай не прынясуць; далей, калі запісацца ў „Strzelec“, дык у разе вайны, каму ці прыдзецца ваяваць, але „стральцом“ трэба ісьці першым на фронт, а гэта зусім нас ня цешыць. Запісвацца да „Stowarzyszenia Młodzieży Polskiej“ ці „Koła Młodzieży Ludowej“ ня варта з увагі на будучыню.

29-га чэрвеня с. г., у часе „Święta Morza“, па вёсках зьбіраныя былі подпісы пад загадзя прыгатаванай рэзалюцыяй „przeciwko zakusom niemieckim na polskie Pomorze“. Пацікавіўся я і тут, ці многа людзей будзе гэты пратэст падпісваць. І вось даведаўся, што ў аднэй вёсцы чыста каталіцкай, дзе гаспадароў ёсьць 50—40, падпісалася 3 чалавек, у другой, з 30—40 гасп. — 2 чал., у трэцяй, дзе гаспадароў ёсьць якіх 25—30 — ніводзін дух не падпісаў. Падобна было і ў іншых вёсках. Даныя гэтыя мае Ваўкавыскае староства, якому лісты з „пратэстамі“ былі пераcланыя.

Факты гэтыя хіба што тлумачэньня не патрабуюць...

Агулам бяручы жыцьцё беларускага народу ў Горадзеншчыне і Ваўкавышчыне пад узглядам эканамічным і моральным дужа цяжкае, з боку беларускага ўсьведамленьня,— пацяшаючае. Дзеля гэтага сьмела можна цьвердзіць, што паміма ўсяго беларушчына ў Горадзеншчыне і Ваўкавышчыне не загіне, а разьвіваючыся будзе выдаваць ідэйных і ахвярных працаўнікоў-барацьбітоў за лепшую долю нашае Бацькаўшчыны.

**Я. Н.**

---

# МІХАСЬ ЯВАР

24-га чэрвеня с. г. седзячы над берагам Нёмна, каля роднае вёскі Міневічы, Луненскай гм., Горадзенскага пав., выстралам з рэвальвэру перарваў сабе жыцьцё малады беларускі паэт Міхась Явар (Карась).

Родная сястра паэта, відаць прачуваючы нешта кепскае, сачыла за братам і калі пабачыла, што ён хоча сабе адабраць жыцьцё, хацела яму ў гэтым перашкодзіць. Але было ўжо за позна, бо сьціраваны ў грудзі рэвальвэр выстраліў. І хоць куля ў сэрца не папала, то аднак прычынілася да таго, што 27-га чэрвеня Міхась Явар сканаў у Горадні, куды перавезены быў на лекі.

Міхась Явар зьяўляўся нашым сталым супрацоўнікам. Ягоныя творы былі друкаваны на бачынах „Шляху Моладзі“. Апроч таго маем яшчэ некалькі вершаў недрукаваных, адзін з якіх зьмяшчаем ніжэй. Прадчасная сьмерць паэта зьяўляецца для нас вельмі балючай.

Паходзіў Міхась Явар з небагатае беларускае сялянскае сям'і. Ён глыбака перажываў сучасныя падзеі і цяжкае палажэньне беларускага народу. Здароўе меў слабое і доўга хварэў на сухоты. Апошнім жа часам папаў ён у цяжкія жыцьцёвыя абставіны. Усё гэта так забойча дзеіла на ягоную маладую душу, што нэрвы больш не маглі вытрымаць.

Сьмерць М. Явара ставіць прад вачыма кожнага, а асабліва маладога беларуса(-скі) абраз таго жудаснага жыцьця нашага народу ў сучаснасьці, што даводзіць да роспачы і так трагічных канцоў, як толькі што апісаны. Вынік гэта бязмежнага абядненьня і ўтраты веры ў жыцьцё і свае собскія сілы. Над паправай быту нашага народу і над узмацненьнем у ім веры ў жыцьцё мусімо дзеля таго яшчэ сіль-

ней працаваць, каб гэткія і ім падобныя здарэньні не паўтараліся.

Вернаму-ж сыну народу хай лёгкая будзе родная зямелька! Я—к.

## ВЕЧАР.

Вечар. Ціха кругом;
Ужо над родным сялом
Гоман сьціх, цішыня і спакой,
Вецярочак прыціх
І ў садочках густых
Не шапочуць лісткі між сабой.
Нёман ціха маўчыць —
Усё бяжыць ды бяжыць
З краю роднага ў край дзесь
У разьвітаньні з ім, [другі.
З краем родным сваім
Усё цалуе свае берагі.
Цёмны лес за ракой
Не парушыць спакой,
Думкі думае ціха свае...
Але хто іх пайме?
Але хто адгане? —
Не згадаць іх ніколі, о не!
А з гары ўсё блішчаць
Ўсё гараць зіхацяць
Ясны зоркі —сьвятыя вагні,
Ўсё чагосьці дрыжаць
Ўсё маргаюць, глядзяць, —
О таёмныя зоркі мае!

—„Брат, даволі ўжо спаць“—
Дзесьць у лесе чуваць:
Хтосьці сумна,маркотна пяе,—
Гукі сумна дрыжаць
Гукі плачуць, ляцяць
Так далёка наўкол ў цішыне...
—„Глянь, кругом барацьба“—
Изноў чуваць, а сям‘я
Цёмных хвояў ўсё ўторыць яму.
Гукі сумна дрыжаць
З скаргай, помстай ляцяць
Дзесь далёка ў прастор, ў
А за імі стралой ]вышыню
Па-над лесам тых хвой,
Душа рвецца ў няведамы край
Лётам птушкі туды.
Дзе ні сьлёз, ні нуды,
Дзе пануе вясна, вечны май!
Ў вышыню, у прастор
Да таемных тых зор!
Дзе няма ланцугоў для яе,
Дзе няма тэй нуды,
Крыўды, гора— бяды,
Што пануюць на нашай зямлі.

**Міхась Явар.**

---

# Uzdoŭž — popierak Biełarusi. (6)

(*Krajaznaŭčyja zaciemki*).

**Brasłaŭščyna.**

*Minułaje Brasłaŭščyny.*

Aŭtor apisańniaBrasłaŭščyny Jakub Brasłaŭski ŭ prošłym numary „Šl. M.“dajšoŭ užo da Novaha Pahostu.U hetym m-ku znajšoŭsia adzin z našych čytačoŭ Antoś Pahoski, jaki zachacieŭ svoj kutok sam apisać. Dziela hetaha, sa zhodaj Jakuba Brasłaŭskaha, dalej hołas addajem Antonu Pahoskamu. — Red.

Novy Pahost źjaŭlajecca davoli starym miastečkam na hałoŭnym trakcie Brasłaŭ—Hermanavičy—Łužki. Centr miastečka raspałožany ŭ nizinie, a navokał abšar chvalisty. Tolki

na paŭdniovy ŭschod ciahniecca ŭ bok Šarkaŭščyny raŭninny i lasisty krajavid.

Miastečka N. Pahost davoli staroje. Jość tut stary dzieraŭlany kaścioł, załožany Sapiehaj, davoli cikavaja z boku etnahrafičnaha dzieraŭlanaja zvanica, zbudavanaja ŭ miascovym stylu. Jość tut taksama i staraja unijackaja carkoŭka, jakaja ciapier staić zamknionaja. Jašče pierad vajnoj, kali kazna vybudavała novuju muravanuju carkvu, b. unijackuju carkvu duch. pravasłaŭnyja ŭłady zamknuli. U 1931 h. byŭ ja razam z etnohrafam z Vilni ŭ hetaj pradziedaŭskaj śviatyni i z dazvołu śviaščeńnika, niejkaha zajadłaha maskala, mahli my ŭsiudy zahlanuć i razfukać pył minuŭščyny. Znajšli my tam duža cikavuju raźbu Chrystovaha Razpiaćcia. Hetaja fihurka z boku historyi mastactva źjaŭlajecca na tolki cikavaj, što vykanana niejkim vakoličnym mastakom-raźbiarom. Vykanańnie vielmi prymityŭnaje, ale artystyčnaje, u dadatku vidać ślady polichromii. Vyraz tvary Razpiataha—heta rysy zvyčajnaha sielanina biełarusa z Brasłaŭščyny. Nijakich antropolohičnych rysak semickaj rasy tut nia bačym. Vidać, što hetaha samoha mastaka byli i fihurki, jakija ŭdałosia nam znajści na piłackim i čornaruckim viaskovych mohiłkach.

U hetaj-ža carkoŭcy znajšli my taksama vielmi cikavy nieviadomaj ruki abraz razmieru 50 cm.$\times$100 cm. Na hetym abrazie namalavana „Apošniaja viačera Haspodniaja z Apostałami". Charakterny hety abraz tym, što ŭsie apostały majuć vyhlad manachaŭ, u jakich uvieś vierch hałavy holeny. Kožny z ich hałavoj padobny da katalickaha śv. Antona.

Daŭžej zatrymlivajusia nad unijackaj carkoŭkaj tamu, što jana ŭ minuŭščynie mieła vialikaje značeńnie, a taksama i ŭ našyja časy, h. zn. 1918 - 1920 h. tut adbyvalisia važnyja relihijnyja padziei ŭ žyćci pahaščan. Jak pačali zajmać balšaviki našu staronku, to ŭsie „pastyry"—pravasłaŭnyja i katalickija—pakidali svaich „aviečak" i ŭciakli tudy, dzie ichnaj skury nie hraziła niebiaśpieka. Astalisia duchoŭniki tyja, jakim nie zaležyła na „voŭnie svaich aviečak", ale na ichnaj dušy. Ale jak uspakoiłasia „bura", dyk znoŭ viarnulisia duchoŭniki „biežancy", kab źbieražonych „aviečak stryhčy". A viernych pastyraŭ, „arcypastyr" adłučyŭ ad „stady" i prahnaŭ tudy, „kudy i Makar cialat nie haniaje". Adnym z najviarniejšych žaŭnieraŭ Chrystovych byŭ u našaj staroncy r.-katalicki ksiondz Viktar Šutovič. Jon doŭhi čas absłužyvaŭ usie vakoličnyja parachvii, jakija byli pakinuty duchavienstvam. Praz uvieś čas pabytu balšavikoŭ nikudy nie ŭciakaŭ i biespraryŭna spaŭniaŭ svaje duchoŭnyja abaviazki. U hety-ž čas u N.-Pahoście taksama byŭ davoli śvietły, vysoka vučony čałaviek, rasiejec, katalicki duchoŭnik uschod. abradu, siahońnia niaboščyk užo ajciec Dzijador Kołpinski, jaki absłužyvajučy duchoŭnyja patreby viernikaŭ, kožnuju niadzielu i śviata praviŭ dźvie liturhii: adnu ŭ kaściele ŭ łacinskim abradzie,

a druhuju ŭ unijackaj carkoŭcy, ab jakoj była hutarka vyšej, ŭva ŭschodnim abradzie, kudy prychodzili i pravasłaŭnyja. Jon tak umieła pryharnuŭ da siabie ŭsich viernych abodvuch vyznańniaŭ, što ŭžo pavoli zacirałasia miž imi roźnica. Jak by na niejki čas viarnulisia daŭniejšyja časy unii na našych ziemlach. Staryki pačali ŭspaminać daŭniejšyja časy, kali asnaŭnoha padziełu ŭ vieravańni nia było, kali łacińnik i unijat razam u adnoj śviatyni i adnamu Bohu malilisia. Moładź pačała hadavacca na tradycyjach i apaviadańniach starykoŭ.

Ale sa źmienami padziejaŭ, źmianialisia i ludzi. Ajciec Dzijador vyjechaŭ z N. Pohostu; viarnulisia znoŭ papiarednija „pastyry", a z imi ichnyja „paradki" i ŭznoŭ pačałosia kapańnie propaści, raździalajučaj naš narod na dva varožyja łahiery.

Pišučy ab Pahoście, liču nieabchodnym uspomnić i ab tym, što ad 1917 h., h. zn. ad času vizytacyi arcyb. E. Roppa doŭhi čas byli havorany ŭ tutejšym kaściele kazańni pabiełarusku. Zapačatkavali tut bieł. kazańni słaŭnyja kaznadziei i mastaki biełaruskaha słova: śv. p. ajcy Jakuć i Piatroŭski. Ad hetaha času zaŭsiody havaryŭ kazańni pabiełarusku, až pokul nia vyjechaŭ z N.-Pohastu, ks. Žuk, jaki siańnia, nažal, zdajecca zroksia biełaruskaści.

Ab pravasłaŭnych duchoŭnikach u N.-Pohaście daŭniej i ciapier šmat havaryć nia prychodzicca — heta ludzi zusim čužyja našamu narodu i nijakaha nia majuć upłyvu na jahonaje duchovaje ŭzhadavańnie. Naadvarot — jany navat śviaciać błahim prykładam dla parafijan, bo jość ich tut dva i viečna kałociacca, niamohučy padzialicca carkoŭnaj majemaściaj. Adnym słovam duchoŭniki pravasłaŭnyja nia jduć nam rukoj.

Nacyjanalny skład nasialeńnia m. N. Pohastu — heta biełarusy (kataliki i pravasłaŭnyja), žydy — ale nia šmat. Moža ciapier, pa praviadzieńni čyhunki Varapajeva-Druja, N. Pahost staniecca bolš ruchliviejšym miastečkam, to i žydoŭ prybudzie. Jość tut i palaki — praŭdzivyja palaki (palicyja, pisary, vučyciali, ksiondz(šlachta vidzkaja), a moža dzie jaki i jašče zabadziaŭsia, ab jakim nia ŭspomniŭ. Za palakoŭ ličyć siabie ŭsia intelihencyja, navat miascovaha pachodžańnia (za vyniatkam śviaščeńnikaŭ z siem'jami, dziaka dy psałomščyka). Jašče astajecca adna intelihentnaja siamja Zimnickich, ale ich nie zaličaju da palakoŭ, bo mahli-b skryŭdzicca, asabliva sam Zimnicki Jury, typičny ašmiančuk.

N. Pahost z troch bakoŭ abstupajuć dvary i dvaročki z abiadniełymi panami, jakija žyvuć uzdochami ab „prežniej roskošy". Ekanamičny kryzys i ich „biednieńkich" tak prydušyŭ, što až piščać. A sialanie, hledziačy na panoŭ i padpankoŭ, cicha sabie ŭ vus paśmiejvajucca, bo mužyku da kryzysu nia pryvykać: jon-ža cełyja viaki žyvie ŭ kryzysie.

Ale chiba chopić užo ab N. Pahoście — jedziem dalej. Na ŭschod ad Pahostu ŭ 8—9 viorstach jość dvor Stefanova. Tam znachodzicca staraja dzieraŭlanaja kaplička, kažuć — unijackaja. Tudy čas ad času daježdžaje pahoski ksiondz na nabaženstva. Usie vakoličnyja vioski kala Stefanova pieravažna z pravasłaŭnym nasialeńniem.

Na paŭdniovy ŭschod ad N. Pohastu, u Piłackim lesie jość „haradzišča“, vysoki nasyp, akružany hłybokim rovam i vałam. Možna dadumyvacca, što heta „haradzišča“ pachodzić z vieku XIII -XIV. A niedaloka ad haradzišča jość stary mahilnik, dzie znachodzicca vielmi starynny kamienny kryž.

*Antoś Pahoski.*

---

# Літэратурны аддзел.

*
* *

Зьвініць каса .. Каса зьвініць...
Горач і ясны працы дзень.
Задумай даль абняў спакой.
У гэты час люблю спачыць
Зьнямогшысь сеўшы дзесь ў цень,
Ці над руччом, ці над ракой.

За хваляй хваль бяжыць, бяжыць
Як нашы думкі, як жыцьцё.
Спрабуй вярнуць, спрабуй спыніць,
Што вось праходзе, што прайшло.

Далёка хвалі дзесь былі,...
Прышлі й пайшлі.
І зьніклі дзесь ізноў у даль.
Так нашы дні,
Так ўсё ў жыцьці
Бягучы міг — лаві, лаві,
А што прайшло — таго ня жаль.

**М. Машара.**

## ЖНІВО.

Ў садзе вішня счырванела;
Луг стагамі ўкрыўся;
Ў полі жыта пабялела —
Колас нахіліўся.

Пара жніва наступіла:
Жанкі і дзяўчаты
Йдуць з сярпамі, глянуць міла,
Ўбраны як-бы ў сьвята.

І сьпяшаюцца вясёла
На свае палосы;
Сонца ўзьняўшыся высока
Абмятае росы.

Жнеі гнуцца на загонах —
Сярпамі махаюць,
Жмені жыта, бы ў вазонах
Па вярху мігаюць.

І кладуцца ў перавяслы,
А пасьля ў снапочак;
Асьцярожна сноп падняўшы
Ставяць у радочак.

Жнеі жнуць, іх твар пылае
Валіць пот струямі;
Поле міла паглядае
Копамі—снапамі.

Песьня сумная ліецца
Праз полі пад вечар,
І далёка з ёй нясецца
Цёплы летні вецер...

**А. Жук.**

## ВАСІЛЬКІ.

Востры серп хціва жаў
Ураджай каласоў —
Я ў калысцы ляжаў
Сярод жоўтых палёў.
У цянёчак з снапоў
Ка мне матка прыйшла.
І вянок з васількоў
Палявых прынясла.
Цалавала мяне,
Што я любы сынок
І галоўку маю,
Уквяціла ў вянок...
І пайшла зноў да жней,
Да вясёлых жанок,
Крыж зрабіла на мне
Каб мяне хто ня ўрок...
Я ў калысцы ляжаў
І на неба глядзеў —
Васількі, што трымаў,
Быццам з неба я меў.

Васількі з родных ніў
Спадабаліся мне;
На яву іх я сьніў
Іх я трызьніў ўва сне.
Я падрос... я пастух...
Я ратай... я жаўнер...
Васількоў іншых двух
Пакахаў я цяпер.
Ўспамінаю пры іх
Пра вянок з васількоў,
Што мне матка дала
З стужкай ласкавых слоў.
Люба, глянь на мяне...
Векі воч падымі...
Можа ў вочках тваіх
Васількі расьцьвілі...
Расьцьвілі?... Ты маўчыш...
Толькі слова скажы —
Цалаваць рад я крыж
На супольнай мяжы.

**Я. Вількоўшчык.**

# Dla našych małodšych.

## HUSIANIO I PARASIO.

Adnojčy, iduč y pa darozie, sustreła parasio husianio.

— Kudy jdzieš, załataja ptušačka? —pytaje parasio husianio.

— Čakaju tutaka na pastušku, jana pahonić nas kupacca ŭ stavok — adkazała husiano.

Pačuŭšy ab vadzie, parasio pierapałochałasia, zapiščeła, zakvičeła i davaj uciakać.

Husianio zacikaviłasia hetym i kaža:— Ci-ž heta parasio durnoje — nikoli nie kupajecca — što pačuŭšy ab vadzie hetak spałochałasia.

Dyj i praŭda, husianio: parasio — dzicio brudnaj švinki dyk i nia kupajecca.

Volny pierakł. z českaha *M. H.-B.*

# Янка Пастушок.

(*Працяг; глядзі „Шлях Моладзі“ № 6*).

Сьпіць Янук... Вобач, зьвярнуўшыся клубочкам чутка дрэміць Лысы, а над імі, як маці над калыскай свайго дзіцяці, пахіліўся доўгім гальлём разьвесіста-альховы куст, баронячы іх гушчай свайго маладога, аксамітна-бліскучага лісьцейка ад сьпекі ліпнёвага сонца.

Сьпіць Янук і бачыць прыгожы ліпнёвы ранак. Сонца толькі ўзышло. Яшчэ ня грэе... Толькі быццам на спатканьне новаму дню па фоне пурпуровай зары брызнула навокал сябе іскрыстымі снапамі залацістых касуль. Апошнія цені змроку хутка, хутка зьнікаюць у сінюю даль. За імі як-бы ўдагон, зіяючы многахварбнымі вясёлкамі, па крыштальных хварбах расы пнуцца доўгія праменьні сьвету, новага дня.

Вясёла пераклікаючыся, у зялёнай гушчы лісьця прыдарожных бязоз, шчабечуць птушкі. У цёмна-сінім блакіце пушчаюць адна за другой свае звонкія трэлі няпрыкметныя жаўрукі. Паветра сьвежае і чыстае. Грудзі шырока хапаюць пахучы водар сьвежага сена, мядункі, канюшыны і поля.

Янук ужо выгнаў пасьвіць стадку. Прыгожа выглядае залітая расой і першымі коскамі сонца, невялікая лугчавіна,— пасьба Янука. З аднаго боку каля яе невялікі альховы гаёк з руччом,—з другога вялізны палетак жыта, з трэцьцяга—ад засьценку папар, а супраць, даўгой струной лёг стары гасьцінец з пышнымі бярозкамі пабапал.

Скваплівa скубуць каровы сочную траву. Часам каторая скочыць праз роў у жыта, ды спуджаная брэхам Лысага і сьвістам Януковай пугі, бардзей ляціць назад.

Пільна сочыць Янук, каб стадка не нарабіла шкоды, але гэта не перашкаджае яму адначасна любавацца красой чароўнай раніцы. Ён міла глядзіць на васількі, якія выглядаючы з гушчы высокага жыта, радасна цягнуцца да сонца.

Раптам Янук пабачыў ідучага проста да яго якогась чалавека і чым бліжэй ён падыходзіў, тым больш дзівіўся Янук, дзе ён бачыў гэтага маладога, прыстойнага хлапца? Чымсь даўно знаёмым веяла ад гэтай стройнай фігуры. Гэтыя сьветла-русыя валасы, што так непаслухмяна выбіваюцца з-пад шэрай шапкі, гэты здаровы, сухашчавы твар, апалены сонцам і вясьнянымі вятрамі, на‘т паходка і тая здавалася Януку знаёмай.

А тым часам падарожны хлопец, трымаючы якісь клумак пад пахай, падышоў зусім да Янука і прыстанаўляючыся спытаў.

— Ці-ж ты не пазнаў?—і адначасна сваімі сінімі вачымі так ветліва, з прыемнай усьмешкай глянуў Януку ў твар.

Янук з зьдзіўленьнем бачыў, што з клумка выглядае скрыпка і радасьць засьвяцілася ў яго вочках. „Так, так, гэта пэўна ён... Але які ён здаровы і сільны!... Якім прыгожым сьветам гарaць яго вочы!... Зусім не такі, як я думаў..."

—Ці-ж ты мяне не пазнаў?—ізноў пытаецца незнаёмы — то-ж я... я Сымон Музыка... Той, аб каторым ты чытаў. Толькі я вырас ужо і не такі мо' як ты думаў. Я люблю пастушкоў, бо сам быў ім... Дык вось і зайшоўся пагутарыць з табой.

— Так, цяпер пазнаю — нясьмела адказаў Янук.

— Вось добра... дык сядаймо, — прабівае яго Сымонка, ды пагутарым.

Янук з цікавасьцю слухае і з радасьцю садзіцца на супроць Сымонкі. У галаве так многа пытаньняў, так хочыцца аб усім распытаць Сымонку: — аб жыцьцю, скуль ідзе, дзе быў, што робіць?

— Я ведаю, што ты вельмі любіш песьні і прыгожую йгру — абрывае думкі Янука Сымонка, — дык вось насамперш зайграю табе на скрыпцы і запяю песьню, што ўлажыў для цябе, а потым пагутарым. Адкажу на ўсе тваe цікавыя пытаньні.

Дзівіцца Янук, як мог даведацца Сымонка аб ягоных думках і хацеў яго запытаць самамперш аб гэтым. Але Сымонка тым часам дастаў скрыпку і пад чароўныя гукі струн запяяў.

Не бядуй, мой ты любы Янук,
Што на сьвеце так многа нядолі,
Вер у сілу сваіх, братка, рук
І ня зможыць ніхто нас ніколі,

У жыцьцю толькі той і жыве,
Хто імкнецца наўперад заўсёды.
Той, хто верыць у сілы свае
Пераможа ўсе перашкоды.

Хоць цярніста дарога твая
І балюча калечуцца ногі,
Але шлях наш да лепшага дня,
Дык ідзі, ня зьбівайся з дарогі.

Смутак кінь... Непатрэбна зусім
Даваць мейсца маркоце і болю.
У жыцьцю трэ' братка быць стальным,
Калі хочыш здабыць сабе долю

Так, Янук... Так, і я стаў другім
Кінуў песьні маркоты і жалю;
Поўны веры сэрцам маладым
Толькі сьветлыя песьні сьпяваю.

У вандроўцы сваей,
Тут па роднай зямлі,
Разам з скрыпкай маей
Я зайшоў да цябе.

Шопат дум маладых
І жаданьне тваё
Выліваць у чымсь іх,
Я падслухаў, братко.

Не марнуючы час
Маладога жыцьця,
Пляці з думак паяс,
Вось парада мая.

Замыкай солад дум
І красу абразоў
У паточысты шум
Сугалосістых слоў.

Дык ідзі-ж, братка ты,
Па сьцяжынцы маей, —
Песьняром цемнаты
Працавітых людзей.

Будзеш песьні пяяць,
Аб прасторы палёў,
Аб чым дрэвы шумяць
Пушч разлогіх, лясоў.

Аб нябёс сіняве,
Што як вочы дзяцей,
Разляглісь над усей
Беларускай зямлёй.

Будзеш бачыць братоў
Роўных, вольных людзьмі
Ад адвечных акоў
Паднявольля і цьмы.

Толькі, братка, адно:
Трэба веду здабыць,
Бо сам знаеш даўно
Кепска невукам быць

Дык бяз спынку імкнісь
Да сьвятла ўсей душой
Прадусім сам вучысь
І працуй над сабой.

Раптам песьня абарвалася...

Янук адкрыў вочы і ў зьдзіўленьню пабачыў замест Сымонкі і яго скрыпкі—Лыску, які тармасіў яго за плечы...

...Знача гэта быў сон... Знача ён спаў?... А стадка?...

Янук жвава ўскочыў на ногі і пачаў разглядацца наўкола. Сонца значна апусьцілася. У паветры павеяў сьвежы вецярок.

Сьпякота прайшла, а разам з ёй зьнік і авад. Стадцы надакучыла ўжо стаяць у вадзе і, нябачучы вартаўніка-пастуха, — каровы адна за другой пусьціліся праз лугчавіну на гару ў авёс.

Янук з усіх ног кінаўся забягаць ім дарогу.

**М. Машара.**

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Агульны Надзвычайны Сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту.** 5-га ліпня с. г. у Вільні адбыўся Агульны Надзвычайны Сход Бел.Нац.К-ту, на якім паміж іншымі справамі абгаворвана было сучаснае цяжкае палажэньне беларускага народу. У выніку гэтага была вынесена адпаведная

рэзалюцыя, у якой Беларускі Нацыянальны Камітэт дамагаецца ад польскага ўраду правядзеньня ў Зах. Беларусі зямельнай рэформы, пры каторай былі-б надзелены да поўназямельля беззямельныя і малазямельныя беларускія сяляне, адчыненьня беларускіх школ, поўнага самаўраду і агулам правядзеньня ў жыцьцё закону польскай канстытуцыі і міжнародных забавязаньняў, гварантуючых Беларусам у межах сучаснае Польшчы правы разьвіцьця народнай культуры, нацыянальную і рэлігійную свабоду. У гэтай-жа самай рэзалюцыі Беларускі Нацыянальны Камітэт дамагаецца ад праваслаўных і каталіцкіх духоўных уладаў беларусізацыі царквы і касьцёла на бел.землях.—На гэтым-жа паседжаньні выбраны дзьве рэлігійныя Камісіі: каталіцкая і праваслаўная, якім даручана дапільнаваць справу беларусізацыі рэлігійнага жыцьця у Зах. Беларусі.

**Зьмена памешканьняў.** Усе беларускія арганізацыі і інстытуцыі, што дагэтуль мясьціліся ў Вільні пры вул. Людвісарскай 1—19, (Бел. Нац. Камітэт, Бел. Інстытут Гаспадаркі і Культуры, Ц. К.—Б.Х.Д., рэд.„Бел. Крыніцы,“ „Studenskaj Trybuny“, і інш.), а так жа тыя, што мясьціліся пры вул. Завальнай 6—10 (Бел. друкарня ім. Фр. Скарыны, Бел. Кнігарня „Пагоня,“ рэд. „Шляху Моладзі“ і інш.)—ад 1 жніўня с. г. пераносяцца ў новае памешканьне ў Вільні пры вул. Завальнай 1. (напроціў быўшага памешканьня беларускай друкарні). Туды трэба цяпер адрэсаваць і ўсякую карэспандэнцыю да названых арганізацыяў і інстытуцыяў.

**Экскурсія журналістаў з Савецкае Беларусі.** Паводле паданых польскай прэсай вестак, у пачатку жніўня ў Польшч мае прыехаць экскурсія беларускіх журналістаў, якая паміж іншым адведае і Вільню.

**Кадры беларускіх інтэлігентаў павялічваюцца.** З канцом сёлетняга акадэмічнага году лік беларускіх інтэлігентаў узноў пабольшыўся. Прыбыло з Віленскага Унівэрсытэту трох новых аб‘сольвэнтаў, з якіх грам. Тодар Куніцкі скончыў аддзел мэдычны з тытулам лекара, грам. Станіслаў Станкевіч - аддзел гуманістычны— з тытулам магістра філёзофіі і грам. Міхась Тулейка—аддзел юрыдычны — з тытулам магістра права. — Усім ім жадаемо ўдачы на новай жыцьцёвай каляіне.

**Матурысты беларускіх гімназіяў у Наваградку і Вільні.** Сёлета акончыла беларускую гімназію ў Наваградку і Вільні 25 чалавек: з іх 14 чалавек у Наваградку і 11 ў Вільні. У Наваградку атрымалі матуру: Мар‘я Альхоўская, Алё-Валынец, Александра Вярбіцкая, Ліда Дзякавічанка, Уладзімер Гацкі, Янка Курчэйка, Тамара Кур‘янішка, Тацяна Лукашык, Міхась Рагуля, Астап Русецкі, Янка Сазановіч, Уладзімер Сіўка, Леванід Чатырка і Янка Цупрык; у Вільні-ж: Жэдзік, Забельская, Канцэлярчык, Марцінавічанка, Мілючан-

ка, Насекайла, Стракоўская, Сухая, Урбановіч, Фёдараў і Шавелянка.

**Адкрыцьцё бюсту Івана Луцкевіча.** 18-га чэрвеня с. г. ў Вільні ў Беларускім Музэі ім. Івана Луцкевіча адбылося адкрыцьцё бюсту закладчыка гэтага музэю Івана Луцкевіча. Бюст Ів. Луцкевіча выканаў ведамы ў Вільні мастак—скульптор Р. Яхімовіч.

**Выдавецкае нівы.** У месяцы ліпні с. г. вышлі з друку наступныя беларускія кніжкі:

„Sceničnyja twory» (Зьбянтэжаны Саўка,“ „Пасланец“ і „Конскі патрэт“) выданьне Я Найдзюка; кніжка гэта мае 32 бачыны і каштуе 50 грошаў.

„Ядвігін Ш“ —жыцьцё і творчасьць ягоная ў апрацаваньні Хв. Ільяшэвіча, выданьне Т. Б. А. Кніжка мае 40 бачын малога фармату і каштуе 50 гр.

**БЕЛАРУСЫ Ў ЛІТВЕ. Беларусы у Літве ня сьпяць.** — 6 траўня ў Коўні быў зладжаны беларускі вечар з нагоды першых угодкаў адчыненьня „Беларускае хаткі“ у Коўні. Падчас вечару прамаўляў грам. А. Матач, пастаўлена была п‘еса Ул. Галубка „Суд,“ выступаў хор і аркестр балалаечнікаў, а маладая беларуская паэтка, студэнтка Л. Романэйка дэклямавала свае творы.

— 3 чэрвеня с. г. быў наладжаны „Аб‘яднаньнем беларусаў-студэнтаў Унівэрсытэту Вітаўта Вялікага“ у Коўні вечар літоўска-беларускага збліжэньня.

— 14 чэрвеня с. г. Беларускі Народны Тэатр ладзіў у Коўні прадстаўленьне. Ставілі п‘есу О. Сахаравай „Птушка на волі.“

— Той-жа тэатр 8 ліпня с. г. ладзіў беларускае прадстаўленьне у Вілкаміры, а 9 ліпня ў Янаве. Пастаўлена была камэдыя Фр. Аляхновіча „Пан Міністр.“ У Вілкаміры перад прадстаўленьнем грам. А. Матач чытаў лекцыю на тэму „Беларусы і іх культура.“

**Б.С.С.Р. Паездка Купалы ў Ленінград і выступленьне на вечары ў Выбарскім доме культуры.** У пачатку м-ца ліпня с. г. Беларускі Народны Паэт Янка Купала езьдзіў у Ленінград для азнаямленьня і навязаньня бліжэйжых зносінаў з расейскімі пісьменьнікамі. Купалу ўрачыста вітаў і прымаў страшыня Ленінградзкага саюзу савецкіх пісьменьнікаў Р. Баўзэ, — 11-га ліпня с. г. Купала выступаў у Выбарскім доме культуры на вечары, прысьвячаным 13-тым угодкам адвавяваньня Савецкае Беларусі ад Палякаў.

**Закладзіны новага тэатру.** 11 ліпня с. г. ў Менску, на пляцы „Парыскай Камуны“ адбыліся закладзіны новага вялікага будынку для беларускага тэатру.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНА ЯКАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч.**

**Беларуская опэра.** Беларускі кампазытар Аладаў рыхтуе матэр'ялы да напісаньня опэры на лібрэтто Ю. Дрэйзіна: „Адзінкі і масы."

**Прыстань для самалётаў.** 1-га верасьня с. г. у Менску будзе закончана будова самалётнага порту (прыстань).

**Сёмы выпуск Архітэктурна-Будаўнічага Тэхнікуму.** У Менску нядаўна ўрачыста адбыўся сёмы выпуск Беларускага Дзяржаўнага Архітэктурна-Будаўнічага Тэхнікуму. Аканчыла яго сёлета 165 чалавек.

**Мэханічны завод.** У Нова-Барысаве нядаўна пачата будова першага на Беларусі мэханічнага заводу дзеля вырабу шклянога начыньня. Будова яго мае каштаваць 4.300 тыс. руб. і закончана будзе у 1935 г.

**Абмен навуковымі працамі паміж Беларускай Акадэміяй Навук і польскімі унівэрсытэтамі.** З пачаткам сёлетняга акадэмічнага году будзе адбывацца абмен навуковымі працамі паміж Беларускай Акадэміяй Навук у Менску, а польскімі ўнівэрсытэтамі у Вільні, Варшаве і Кракаве.

**БЕЛАРУСЫ Ў ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЕ. Беларусы на славянскай выстаўцы прэсы.** Вясной сёлетняга году ў Чэхаславаччыне была наладжана у Празе і Брне выстаўка славянскае прэсы, у якой прымалі ўчасьце і беларусы. Падчас выстаўкі былі прачытаны аб Беларусах адпаведныя рэфэраты. У Празе чытаў грам. М. Вяршынін, а ў Брне грам. М. Івашка.

**Бюлетэнь АБСА.** У м цы ліпні ў Празе выйшаў чарговы 5 нумар Бюлетэню Аб'яднаньня Беларускіх Арганізацыяў. З бюлетэню гэтага даведваемся, што на чарговы XV. Кангрэс Міжнароднае Студэнскае Конфэдэрацыі, які адбудзецца ад 23.VIII да 2.XI у Вэнэцыі, АБСА дэлегуе Д-р Я. Ярмачэнку, Д-р А. Вітушку з Прагі. М. Гаўрылічанку, Я. Шутовіча з Вільні і А. Шкутку з Бэрліна. Хто аднак паедзе на кангрэс—няведама, бо фундушы АБСА вельмі скромныя.

## З жыцьця украінскае моладзі.

**Вялікі працэс.** У прошлым годзе быў галосны ўжо бадай на ўвесь сьвет напад на польскую почту ў Ягелёнскім Гарадку. За напад гэты Дымітро Данылышын і Васіль Білас былі засуджаны на кару сьмерці даразным судом і павешаны, а трэці, М. Журкоўскі, засуджаны на 15 г. вастрогу. — Сёлета ад 6—24 чэрвеня ў Львове адбываўся вялікі працэс процiў 6-х маладых хлапцоў і 1 дзяўчыне, якім акт абвінавачаньня закідаў беспасярэдні, або пасярэдні ўдзел у гэтым нападзе. У выніку працэсу аказаліся засуджаны: З. Коссак — на 7 г., М. Куспіс — на 5 г., С. Машчак — на 2 г., Я. Білас (брат павешанага) і М. Матыка—па 2 г., а апраўданы— С. Цапа і М. Кавалюк.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

# Usiačyna.

**Trahiedyja litoŭskich latunoŭ Dariusa i Girenasa.** Dvuch litoŭskich latunoŭ, Darius i Girenas, u m-cy lipni s. h. chacieli pieralacieć z Paŭnočnaje Ameryki praz Atlantycki akijan i Zachodniuju Eŭropu ŭ Koŭniu. I voś, kali ŭžo ščaśliva pieralacieli jany akijan i Zach. Eŭropu, i byli niedaloka mety, bo až u Prusii, papali ŭ vialikuju buru, jakaja nie pazvalała im dalej lacieć. Bačačy niebiaśpieku, latuny chacieli apuścicca na ziamlu. U hetuju adnak chvilinu silny vichor chapiŭšy aeraplan raźbiŭ jaho ab dreva, a słaŭnyja latuny zhinuli trahičnaj śmierciu. Usia Litva horka apłakivała stratu svaich latunoŭ. My ž sa svaje starany, spačuvajučy bratniamu narodu, skłaniajem svaje hałovy prad trunami pieramožcaŭ akijanu.

**Loty naŭkoła śvietu.** U červieni m-cy s. h. amerykanski latun Mattern chacieŭ ablacieć naŭkoła śvietu i pabić rekord lotu Posta i Sattsa, jakija ŭ prošłym hodzie zrabili hetuju-ž padarož, vynosiačuju 22 tysiačy kilametraŭ, u praciahu 8 dzion, 15 hadzin i 51 minuty. Matternu adnak nie padviazło. Z jaho aeraplanam nad paŭnočnym Sibiram, dzie redka jašče stupaje ludzkaja naha, stałasia katastrofa, z jakoj choć vyjšaŭ jon žyvy, ale dalej lacieć nia moh, pry tym musiŭ jon niekalki dzion błukacca pa paloch, lasoch, pakul znašoŭ ludziej, jakija jaho zabrali i adviaźli da miastečka, skul uznoŭ zabraŭsia da Ameryki.

— Uśled za Matternam, trochi pačakaŭšy, u m-cy lipni palacieŭ naŭkoła śvietu druhi raz, užo sam adzinoki, amerykanski latun Poste, z metaj pabić svoj letašni rekord. I voś, choć lot jaho adbyvaŭsia nia nad'ta ščaśliva, bo z im tak-ža była katastrofa, to adnak metu svaju jon asiahnuŭ, ablacieŭšy ziamlu naŭkoła ŭ praciahu 186 hadzin i 50 minut, h. zn. na bolš jak 21 hadzinu chutčej čymsia ŭ prošłym hodzie. Hazety, padajučy spravazdaču ab locie Posta, pišuć, što jahony aeraplan tak dobra abstaŭleny byŭ u roznyja mašyny, što jon latučy moh navat adpačyvać, bo za jaho rabili ŭsio roznaha radu aŭtamaty, padajučy syhnały u razie jakoj-niebudź niebiaśpieki.

**Lot italjanskaje eskadry hydraplanaŭ z Italii ŭ Ameryku.** Najbolšaj badaj sensacyjaj siahońniašnich dzion jošč padaroža italjanskaje eskadry hydraplanaŭ z Italii ŭ Paŭnočnuju Ameryku. Eskadra heta złožanaja z 24 hydraplanaŭ, na čale z italjanskim ministram latunstva Balbo, niadaŭna ščaśliva adbyła padarožu z Italii ŭ m. Čykaho ŭ Paŭnočnaj Amerycy i ciapier viartajecca nazad u Italiju. Uvieś pralot ahułam budzie vynosić bolš jak 20 000 klm.

**Lot Lindberghaŭ i Mollisonaŭ.** Słaŭny amerykanski latun Lindbergh, jaki pieršy pieralacieŭ Atlantyk z Eŭropy ŭ Ameryku, taksama nia śpić. Jon ciapier z žonkaj palacieŭ da paŭnočnaj krainy i asieŭ užo na vialikaj paŭnočnaj vyspie Grenlandyja. Słaŭnaja-ž para anhlijskich latunoŭ, muž z žonkaj, proźviščam Mollison, hetymi dniami pieralacieli Atlantycki akijan z Anhlii ŭ Ameryku. Pry prymusovym spusku na ziamlu stałasia z imi katastrofa, z katoraj vyšli adnak badaj zusim całymi.